*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо.*
**Якуб КОЛАС**


# Народная Воля

**№ 31 (4386)**

19 красавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***Сёння, 19 красавіка, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка звернецца са штогадовым Пасланнем да народа і парламента.***

ФАКТ

## Ізноў мінус…

Мінскі аўтамабільны завод 2018 год скончыў са стратамі. Паводле інфармацыі бухгалтарскага балансу, які апублікаваны на сайце прадпрыемства, чыстая страта завода па выніках 2018 года склала 80,4 млн рублёў, што на 94,2% больш гэтага ж паказчыка за 2017 год. Дарэчы, мінус па гэтай пазіцыі прамысловы гігант паказвае з 2014 года.

Прыбытак ад бягучай дзейнасці прадпрыемства склаў 6,2 млн рублёў супраць 33,3 мільёна рублёў у мінулым годзе.

БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ

## Ад 6 да 50 базавых велічынь…

*Учора адбыліся суды над актывістамі, якія 4 красавіка былі затрыманы падчас зносу крыжоў у Курапатах.*

Справы, як на канвееры, разглядаліся з 9 раніцы ў судзе Мінскага раёна.

Першым асудзілі **Філіпа Шаўрова**. Суддзя **А.Колабаў** прызнаў актывіста вінаватым па двух артыкулах КаАП – «дробнае хуліганства» і «непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёю службовых абавязкаў», і аштрафаваў Шаўрова **на 40 базавых велічынь**.

У 10 гадзін пачаўся працэс над **Валерыем Рабцавым.** Справу разглядала суддзя **Анжаліка Казлова**. Яна палічыла віну Валерыя Рабцава ў дробным хуліганстве даказанай і аштрафавала яго на **шэсць базавых велічынь**.

Наступным у суд быў выкліканы **Міхаіл Сабалеўскі**. Яго справу разглядаў суддзя **Павел Жэчко**. Яго таксама, як і Валерыя Рабцава, абвінавацілі ў дробным хуліганстве. Актывіста аштрафавалі **на 10 базавых велічынь**.

Таксама ў першай палове планавалася слуханне справы 72-гадовай **Ніны Багінскай.** Але яна ў суд не з’явілася, і разгляд яе адміністрацыйнай справы перанеслі на 26 красавіка.

Адразу пасля абеду суддзя **Аляксей Крапачоў** прызнаў, што **Зміцер Дашкевіч** вінаваты ў прад’яўленых яму правапарушэннях – непадпарадкаванні патрабаванню службовай асобы і дробным хуліганстве – і аштрафаваў яго **на 50 базавых велічынь**. Гэта, між іншым, 1275 рублёў.

У 15 гадзін разглядаліся справы **Дзяніса Урбановіча** і **Віталія Трыгубава.** Справу Дзяніса Урбановіча разглядала суддзя Анжаліка Казлова, а Віталя Трыгубава – **Віктар Шаўцоў**. Абодвух актывістаў таксама вінавацяць па двух артыкулах КаАП – «дробнае хуліганства» і «непадпарадкаванне службовай асобе». Трыгубава аштрафавалі **на 20, Урбановіча – на 50 базавых велічынь**.

Каля 16 гадзін у суд даставілі Паўла Севярынца – з 5 красавіка ён адбывае арышт на 15 сутак. Гэтым разам актывіста пакаралі штрафам у **50 базавых велічынь**.

Апошняй разглядалася справа ў дачыненні да **Валянціны Яроменак**. Жанчыну аштрафавалі **на 10 базавых велічынь.**

Такім чынам, агульная сума штрафу актывістам, якія выступілі супраць зносу крыжоў у Курапатах 4 красавіка, склала **226 базавых велічынь,** альбо **5 тысяч 763 рублі**.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

АФІЦЫЙНА

## У Мінск прыедзе прэзідэнт Егіпта

Як паведаміў пасол Беларусі ў Егіпце **Сяргей Рачкоў інфармацыйнаму агенцтву MENA,** прэзідэнт Егіпта **Абдэль Фатах аль-Сісі** наведае Беларусь з афіцыйным візітам у гэтым годзе.

У мінулым годзе тавараабарот паміж дзвюма краінамі склаў 108 млн долараў. Беларускі экспарт склаў 83 мільёны долараў, у той час як Егіпет паставіў у Беларусь тавараў толькі на 25 мільёнаў долараў.

ЧУЛІ?

## З папаўненнем!

Як паведаміў намеснік гендырэктара прадпрыемства “Мінсктранс” **Алег Дзюбенка, да** пачатку Еўрапейскіх гульняў, якія стартуюць 21 чэрвеня, у Мінску з’явіцца 60 новых электробусаў і 328 аўтобусаў.

## У Румаса будзе новы прэс-сакратар

Уладзіслаў Сычэвіч адпрацаваў на пасадзе каля трох гадоў.

Распараджэнне прэм’ер-міністра Сяргея Румаса «Аб вызваленні В.А.Сычэвіча» ад 15 красавіка №102р уключана ў Нацыянальны рэестр прававых актаў, аднак яго тэкст не апублікаваны.

У прэс-службе прэм’ер-міністра *БелаПАН* паведамілі, што новы прэс-сакратар кіраўніка ўрада, як і выконваючы яго абавязкі, пакуль не прызначаны. Там таксама адмовіліся каментаваць прычыну звальнення Сычэвіча, назваўшы распараджэнне Румаса «ўнутраным дакументам, які не будзе апублікаваны».

УЧОРА

## Беларуска-Кітайскі індустрыяльны парк наведалі кіраўнікі замежных дыпмісій, акрэдытаваных у Мінску

Паездка адбылася па ініцыятыве Міністэрства замежных спраў Беларусі. Мэта – азнаёміць дыпламатаў з эканамічным патэнцыялам гэтай надзвычай важнай эканамічнай пляцоўкі. І добра было б, каб пасля яе наведвання замежныя місіі, якія знаходзяцца ў Мінску, сталі больш актыўна запрашаць бізнесменаў сваіх краін да ўдзелу ў індустрыяльным парку «Вялікі камень».



Фота БЕЛТА

ПАЛІТКУХНЯ

## Будучыя выбары – пад кантроль грамадскасці!

*Кампанія «Права выбару», у якую ўваходзіць восем палітычных і грамадскіх структур, плануе выставіць для назірання на бліжэйшых выбарах 1500 чалавек. Аднак эфект ад сваёй працы яны разлічваюць атрымаць толькі ў доўгатэрміновай перспектыве.*

Паводле заканадаўства, чарговыя парламенцкія і прэзідэнцкія выбары павінны адбыцца ў жніўні-верасні 2020 года. Тым не менш падрыхтоўку назіральнікаў у кампаніі не лічаць справай заўчаснай, прагназуючы, што адны выбары пройдуць ужо ў гэтым годзе, прычым гэта, хутчэй за ўсё, будуць выбары кіраўніка дзяржавы.

Адметнай рысай сваёй дзейнасці падчас выбараў у кампаніі лічаць скіраванасць на «актыўнае назіранне», якое ўключае мабілізацыю валанцёраў не толькі для фіксацыі, але і для супрацьдзеяння парушэнням. Сваёй мэтай «Права выбару» ставіць інфармаванне грамадзян і міжнароднай супольнасці аб тым, як у сапраўднасці праходзяць выбары ў Беларусі, а таксама адстойванне вяршэнства права ў краіне.

Аб тым, што дзейнасць назіральнікаў можа рэальна паўплываць на вынікі выбараў, пакуль у кампаніі не вераць. «*Сапраўды няшмат надзей на тое, што падчас бліжэйшых выбараў адбудуцца нейкія істотныя змены ў заканадаўстве і практыцы выбарчага працэсу*, – гаворыць намеснік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. – *Але ў любым выпадку назіранне сёння вельмі важнае: калі яго няма, то ўладам, з аднаго боку, значна прасцей рабіць парушэнні, з другога – складаней ствараць уражанне ў грамадства і міжнароднай супольнасці, што ўсё адбываецца без фальсіфікацый*».

«Змаганне» за тое, каб выбары былі свабодныя і справядлівыя, лічаць у кампаніі назірання, можа быць паспяховым у доўгатэрміновай перспектыве. Але супрацьдзеянне любым магчымым парушэнням таксама вельмі важнае, адзначае палітык, бо дазваляе называць рэчы сваімі імёнамі і ствараць адэкватнае ўяўленне, як адбываюцца выбары ў Беларусі.

«*Аргументы і факты, якія мы збіраем, цікавы і жыхарам нашай краіны, і міжнароднай супольнасці. Часам іх недастаткова, каб змяніць сітуацыю адразу, але ўсё гэта складае падмурак будучых перамен*, – падкрэслівае Янукевіч. – *Усё будуць вырашаць настроі беларускага грамадства. Пакуль яно хутчэй настроена ігнараваць выбары і звязаную з імі тэматыку. Аднак настроі грамадства моцна залежаць ад сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, якая наўрад ці будзе паляпшацца, а таксама ад сітуацыі вакол Беларусі. Таму, лічу, у перспектыве некалькіх гадоў будуць адбывацца сур’ёзныя змены вакол Беларусі, якія закрануць і ўмовы правядзення выбараў*».

Пэўныя надзеі на змены ў выбарчае заканадаўства беларуская апазіцыя ўскладвала пасля парламенцкіх выбараў 2016 года. Па іх выніках БДІПЧ АБСЕ зрабіла рэкамендацыі ўладам, якія нават стварылі спецыяльную камісію з прадстаўнікоў розных дзяржаўных органаў. Вынік працы камісіі – прапановы па змяненні выбарчага заканадаўства. Цэнтрвыбаркам збіраўся афіцыйна агучыць іх на спецыяльнай нарадзе ў Аляксандра Лукашэнкі, аднак яна так і не праведзена.

Безвыніковымі застаюцца і намаганні дэпутата Ганны Канапацкай вынесці на разгляд Палаты прадстаўнікоў свае папраўкі ў выбарчае заканадаўства. Сярод іх – пашырэнне правоў назіральнікаў і гарантый прадстаўнікам палітычных партый на ўключэнне ў выбарчыя камісіі, падрабязная рэгламентацыя датэрміновага галасавання і падліку галасоў.

Аднак усе гэтыя прапановы могуць так і застацца толькі на паперы. «*Ганна Канапацкая працягвае працаваць над праблемай паправак у выбарчае заканадаўства. Гэта працяглая праца, але з тых механізмаў, якія сёння існуюць для дэмакратычных сіл, яна ўсё ж эфектыўна*, – лічыць сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Вольга Кавалькова. – *Па-першае, дзяржорганы, у тым ліку ЦВК, ведаюць пра яе законапраект, яны запрашалі яе на яго абмеркаванне. Таму гэта паспяховы досвед. Калі з пункту гледжання дзяржавы будуць зняты пярэчанні юрыдычнага характару, дакумент будзе вынесены на разгляд сесіі Палаты прадстаўнікоў*».

Праўда, ва ўсім, што тычыцца выбараў, улады кіруюцца не столькі юрыдычнай, колькі палітычнай мэтазгоднасцю. «*Тая ж ЦВК гаворыць, што працуе над зменамі ў выбарчае заканадаўства, аднак пакуль іх уносіць у парламент не збіраецца. Не выключана, што ў гэтым ці наступным годзе яны ўсё ж будуць разгледжаны. Хутчэй за ўсё, папраўкі будуць тэхнічнымі, бо ўлады не зацікаўлены зрабіць празрысты працэс падліку галасоў, які перашкаджаў бы фальсіфікацыям. Але калі гэтае пытанне не ўздымаць, не працаваць з дэпутатамі, якія галасуюць па законапраектах, выбарчая сістэма Беларусі будзе дэградзіраваць і надалей*», – адзначыла палітык.

Калі ўлады ўсё ж не вырашацца пайсці на змены выбарчага заканадаўства, но яны, лічаць у кампаніі «Права выбару», маглі б палепшыць праваприменяльную практыку. «*Не ўсё так блага з законам, яго нормы не перашкаджаюць выбарчым камісіям падлічваць галасы так, каб назіральнікі былі ўпэўнены ў адсутнасці фальсіфікацый*, – гаворыць Кавалькова. – *Перад выбарамі ЦВК будзе прымаць метадычныя рэкамендацыі для выбарчых камісій. На гэта пасяджэнне будуць запрошаны і прадстаўнікі кампаніі. Мы паспрабуем абараніць нашы пазіцыі і пераканаць Цэнтральную камісію змяніць правапрымяняльную практыку*».

**Сяргей КАРАЛЕВІЧ.**

РЭЙТЫНГ

## На дзве прыступкі падняліся

Міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў» выдала чарговы “Індэкс свабоды прэсы”. Беларусь у ім за год паднялася на дзве пазіцыі і займае 153-е месца.

Краіны-суседзі займаюць больш высокія месцы: Латвія – 24-е, Літва – 30-е, Польшча – 59-е, Украіна – 102-е, Расія – 149-е.

АКЦЫЯ

## Апазіцыя ў Гродне плануе альтэрнатыўнае святкаванне 1 Мая

Сябры Аб’яднанай грамадзянскай партыі Мікалай Салянік і Павел Драчоў лічаць, што афіцыйныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню салідарнасці працоўных, не адлюстроўваюць сэнс гэтага свята.

Мерапрыемствы па правядзенні святкавання 1 Мая апазіцыянеры запланавалі ў Каложскім парку, месцы, якое вызначана гарвыканкамам для правядзення масавых акцый. Яны ўжо падалі адпаведную заяўку ў гарвыканкам.

Мікалай Салянік заявіў для СМІ, што яны хочуць нагадаць грамадству аб сапраўднай сутнасці свята Першамая.

«*Перад сучаснымі працоўнымі стаяць новыя выклікі і патрабаванні*, – лічыць Салянік. – *А дзеля таго, каб забяспечыць сабе годнае жыццё, працоўныя павінны дамагацца адпаведных магчымасцяў для працы і вартага заробку*».

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

СА СВЯТАМ!

# «Акрамя нашага асабістага ўваскрасення, неабходна таксама і грамадскае»

*(З Пастырскага паслання Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Вялікдзень 2019 года)*



Пасля трагедыі Вялікай пятніцы, калі здавалася, што «каралеўства цемры» перамагло, надышла ноч, якая папярэджвае «трэці дзень», у які Хрыстус уваскрос.

Праўда ўваскрасення, будучы найбольш каштоўным Божым дарам, адначасова з’яўляецца і заданнем. Яна адкрыла шлях да нашага духоўнага адраджэння і стала своеасаблівым «дарожным знакам» у нашым штодзённым жыцці. Хрысціянін не ўцякае з гэтага свету, але надае яму боскі сэнс. Святы апостал Павел вучыць:

«Калі ж вы ўваскрэслі з Хрыстом, шукайце таго, што ў вышынях, дзе Хрыстус сядзіць праваруч Бога; пра тое, што ў вышынях, думайце, а не пра зямное» (*Клс* 3, 1–2).

Чаго ж трэба шукаць «у вышынях»? Адказ дае той самы апостал Павел: міласэрнасці, лагоднасці, пакоры, далікатнасці, доўгацярплівасці, цярплівасці адзін да аднаго, узаемнага прабачэння і любові, якія з’яўляецца повяззю дасканаласці (пар. *Клс* 3, 12–14).

Гэта не што іншае, як духоўная праца над самім сабой. Гэта штодзённы пераход знізу ўверх па духоўнай лесвіцы. Каб гэтая праца была плённай, мы патрабуем Божай ласкі, якую атрымліваем праз паслугу Касцёла дзякуючы Пасхальнай таямніцы смерці і ўваскрасення Хрыста. Менавіта яна дае нам сілу для пераходу з граху да цноты, са смутку да радасці, са смерці да жыцця.

Акрамя нашага асабістага ўваскрасення, неабходна таксама і грамадскае. Уся наша краіна павінна ўваскрасаць да новага духоўнага жыцця.

Сацыяльна-палітычныя перамены 90-х гадоў мінулага стагоддзя далі новыя магчымасці. Да гэтага благаслаўлёнага часу наша краіна ішла шляхам цярпенняў за веру і адначасова шляхам яе мужнага вызнання і малітвы. Прадказаны Марыяй у Фаціме ў далёкім 1917 годзе працэс навяртання распачаўся тры дзесяцігоддзі таму.

Але ці мы належным чынам выкарыстоўваем дадзеныя Божым Провідам магчымасці? Ці святло ўваскрасення перамяняе нас асабіста і ўсю нашу краіну? Ці будуем мы наша асабістае і грамадскае жыццё з Богам? Ці чынім усё магчымае, каб у нашых душах і заканадаўстве знайшлося годнае месца для Бога? Ці на дзяржаўным і асабістым узроўні сапраўды хочам захаваць нашы сем’і ад крызісу, які нясе біч разводаў, «свабодных саюзаў» мужчыны і жанчыны без касцельнага благаслаўлення, патрабавання супярэчных Божаму праву аднаполых саюзаў і прапаганды гендарнай ідэалогіі? Ці належным чынам клапоцімся аб захаванні найбольш каштоўнага Божага дару жыцця і пераадолення яго крызісу, які вядзе да генацыду нашага народа, у выніку чаго Беларусь апынулася ў «дэмаграфічнай яме»? Ці нашы СМІ і культура чуваюць над маральным выхаваннем нашага народа на хрысціянскіх каштоўнасцях?

Асаблівай увагі патрабуе моладзь, якая паддадзена ўздзеянню амаральнага свету праз рэкламу, сродкі камунікацыі, стыль жыцця, забавы і задавальненні. Імкненне да амаральнага бізнесу і прыбытку вядзе да незваротных змен у маладзёжнай псіхіцы і маральнасці.

Дарагая моладзь, будуйце сваё жыццё на моцным фундаменце, якім ёсць Хрыстус і вучэнне Касцёла, і будзьце адважнымі сведкамі ўваскрасення Хрыста.

На нашых вачах беларускаму народу прышчэпліваецца нігілістычная ідэалогія, якая клапоціцца не пра пошук Божай праўды, а пра яе знішчэнне.

Таму сёння нам неабходна паглядзець на нашы справы з перспектывы ўваскрасення. У шматлікіх сферах нашага асабістага і грамадскага жыцця мы бачым дыктат практычнага матэрыялізму. Прапагандуецца стыль жыцця, у якім няма месца Богу. Яго замяняе чалавек, вартасць якога часта вымяраецца фізічнай і гаспадарчай эфектыўнасцю, рахункам у банку і забеспячэннем прыемнасцяў. Усяму гэтаму неабходна супрацьпаставіць праўду пра святасць чалавека, які створаны па вобразе і падабенстве Божым (пар. *Быц* 1, 26) і збаўлены каштоўнай крывёю Хрыста (пар. *1 П* 1, 19).

Браты і сёстры!

Сардэчна віншую ўсіх вас з радасным і збаўчым святам Уваскрасення Хрыста!

Віншую ўсіх людзей добрай волі!

Народная Воля http://www.nv-online.info
19 КРАСАВІКА 2019 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Избежать Армагеддона!

Напряжение в отношениях Беларуси и России нарастает. Началось с компенсации налогового маневра, дошло до ультиматума российского премьера Медведева, который, по сути, предложил интегрироваться экономиками вплоть до потери Беларусью государственного суверенитета. Продолжение, как говорится, последовало. Недавно Лукашенко намекнул, что Беларусь может поставить на ремонт участки нефтепроводов, по которым российская нефть качается в европейские страны, возмутившись российским эмбарго на поставки из Беларуси фруктов и продолжающимися действиями Россельхознадзора в отношении белорусских предприятий и назвав их санкционными.

Белорусская общественность на это очередное обострение отношений с союзником отреагировала достаточно спокойно. Мол, не в первый раз!

СМИ продолжают транслировать обмен «любезностями» на довольно высоком уровне. Масла в огонь подлило агрессивное поведение российского посла в Беларуси Бабича. Смешными, конечно, выглядят высказывания российского министра культуры Мединского об ущемлении в Синеокой русского языка и замечания российских чиновников помельче, лейтмотив которых «Беларусь – нахлебница России».

Так или иначе, но А.Лукашенко считает, что против Минска идет целенаправленная кампания и нужно ей как-то противостоять. Не в первый раз глава Беларуси поставил перед правительством Беларуси задачу искать альтернативные, источники поставки нероссийской нефти на наши НПЗ. Он ориентирует предприятия-экспортеры на более активный поиск других рынков, в том числе в странах ЕС. Глава государства в очередной раз дал понять руководству России: если что, будем обходиться без вас. Все это происходит на фоне всплеска симпатий к различного рода деятелям западного толка. Осталось вынуть последний известный козырь – вспомнить о двух российских военных объектах, которые эксплуатируются восточной соседкой бесплатно.

Интересный момент возникает и по случаю приглашения Лукашенко в Польшу на мероприятия, посвященные 80-летию начала Второй мировой войны, куда съедутся главы многих государств, но куда не получил приглашения Путин. Примет ли Александр Григорьевич это приглашение с возможностью обсудить с лидерами Запада актуальные для Беларуси вопросы или откажется в угоду Путину, как он недавно предпочел «чаепитие» в Сочи поездке в Мюнхен?

Обмен словесными ударами – это одно (кстати, Путин пока хранит молчание), а вот реальная новая экономическая война с Россией – это уже совсем другое. Здесь весовые категории «заклятых союзников» явно разные. Россия уже фактически отказала в пересмотре условий по кредиту на возведение БелАЭС. Она может подвесить последний транш в 200 миллионов долларов кредита ЕФСР. Россия также может подвесить и 600-миллионный долларовый межгосударственный кредит, уже обещанный Беларуси, или отказать белорусскому Министерству финансов в размещении облигаций, что запланировано им в размере 500 миллионов долларов. В конце концов, отказать в очередном рефинансировании своих же белорусских долгов. На невыплаченные долги начнут начисляться штрафные санкции. Если белорусы не смогут погасить просрочку по любому долгу России в течение 180 дней, то оставшаяся задолженность по кредитам будет объявлена срочной к погашению и может составить сразу несколько миллиардов долларов.

Что тогда? Продавать «фамильное серебро»? Объявлять дефолт? Тогда несложно вообразить: обвальная девальвация белорусского рубля, паника банковских вкладчиков, вымывание валюты из банковской системы, банкротство предприятий, падение реальных доходов населения, безработица и т.д. В общем, Армагеддон!

Но не будем сгущать краски. Там, где валится экономика, сразу возникает политика. Россия не может допустить обвального падения экономики единственного союзника, и, скорее всего, как это уже бывало ранее, будут достигнуты договоренности на высшем уровне. Однако выводы для белорусского руководства известны: необходимо реформировать экономику, делать ее более самодостаточной. Надо пусть постепенно, но последовательно уходить от тотальной экономической зависимости от России. Как выражаются наши политологи: нужно как можно аккуратнее, но не теряя времени, отгребать от России (от «Титаника»), не то можно оказаться в воронке.

* ***Примечание:*** *Армагеддон – производное от древнего города Мегиддо (Мегиддон) у подножия хребта Кармель на севере Израиля. Согласно Библии, это место последней битвы сил добра с силами зла.*

*Став крылатым, слово «Армагеддон» получило несколько более общих значений вне религиозного контекста: конец света, глобальная война либо катастрофа, последствия которых равнозначны концу света; последняя решающая схватка между силами добра и зла.*

ПРЫРОДА І МЫ

# Балота Дзікое зноў стане дзікім?

*Пачалося будаўніцтва плацін для аднаўлення гідралагічнага рэжыму на адным з самых статусных балот Беларусі.*



Мерапрыемства адбываецца ў межах «Прыродаахоўнага праекта для Белавежскай пушчы», які ажыццяўляецца грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ), Нацыянальным паркам «Белавежская пушча» пры падтрымцы Франкфуртскага заалагічнага таварыства (Германія).

«*Асаковае балота Дзікое, якое знаходзіцца каля Белавежскай пушчы, – адзін з першых заказнікаў Беларусі*, – расказваюць супрацоўнікі «Аховы птушак Бацькаўшчыны». – *Цяпер яго тэрыторыя далучана да нацыянальнага парку. Дзікое мае прыродаахоўнае значэнне для захавання біяразнастайнасці не толькі ў Беларусі, але і на планеце: тут гняздуецца адна з трох найбуйнейшых у краіне папуляцый вяртлявай чаротаўкі. У Еўропе засталося ўсяго некалькі такіх балот: большасць была калісьці асушана дзеля сельскай гаспадаркі*».

Натуральны рэжым Дзікога, адзначаюць спецыялісты, таксама быў парушаны маштабнай меліярацыяй: палову балота – вярхоўе Ясельды – асушылі, і сёння яна выкарыстоўваецца для сельскай гаспадаркі. Аднак кавалак у 330 гектараў на краі меліярацыйнай сістэмы, асушаны без інжынернага праекта, цяпер ніяк не выкарыстоўваецца і зарос хмызняком, менавіта яго пры садзейнні АПБ у 2018 годзе перадалі Нацпарку, і менавіта гэтую частку Дзікога Інстытут эксперыментальнай батанікі вызначыў як адну з самых важных для балота. «*Як мы пачалі забалочваць, каб стварыць буферную зону паміж натуральным балотам і сельскагаспадарчымі землямі*, – кажуць у «Ахове птушак Бацькаўшчыны». – *Гэта дазволіць вярнуць сюды натуральную балотную расліннасць і рэдкія віды жывёл, некаторым з якіх, як вяртлявай чаротаўцы і вялікаму арляцу, пагражае глабальнае знікненне*».

На праектным участку пабудуюць 25 плацін, аднаўленне балотнай расліннасці зойме дзясяткі гадоў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ФОТАФАКТ

# «Якія невукі рабілі гэты надпіс?»

*У Мінску на плошчы Незалежнасці ёсць фантан-помнік, у цэнтры якога – манументальная скульптура: тры буслы, што ўздымаюцца ў неба і такім чынам сімвалізуюць Беларусь.*




Побач на мармуровай абводцы фантана сіметрычна размешчаны гістарычныя гербы абласных цэнтраў, а пасярэдзіне іх – шчыт з надпісам. Цытую даслоўна тое, што на ім напісана: «*Плошча Незалежнасці названа ў гонар атрымання суверэнітэту Беларусі. Рэканструявана ў 2003–2006 гадах па даручэнню першага прэзідэнта Рэспублкі Беларусь А.Р.Лукашэнкі*».

Магчыма, не кожны заўважыў памылку ў надпісе: у слове «*Рэспублкі*» прапушчана літара «і».

«*Якія невукі рабілі гэты надпіс?* – падзівіўся чытач, які даслаў у рэдакцыю гэта фота. – *І няўжо ніхто з сённяшніх чыноўнікаў Мінгарвыканкама, офіс якіх, дарэчы, знаходзіцца зусім побач з Плошчай Незалежнасці, да гэтага часу не заўважыў гэтай памылкі? Мы ж прэтэндуем на тое, каб прыцягваць у краіну турыстаў, дзяржаве павінна быць сорамна за тое, што нашы чыноўнікі не могуць нават пракантраляваць, каб словы «Рэспубліка Беларусь» былі напісаны без памылак*».

Калі ўжо памылка зроблена, мяркую, трэба знайсці мужнасць і сродкі, каб яе выправіць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Учора, калі работа над сённяшнім нумарам газеты блізілася да завяршэння, рэдакцыя атрымала інфармацыю ад прэс-службы Мінгарвыканкама, што ў гэтым годзе запланавана рэканструкцыя фантана «Сталіца» на плошчы Незалежнасці. Заказчыкам праектавання і будаўніцтва аб'екта выступае УП «Мінскзеленбуд».*

*У межах рэканструкцыі прадугледжаны работы па замене чашы фантана, усталяванні святламузычнай падсветкі, дэкаратыўнай падсветкі кампазіцыі «Буслы», а таксама замене інфармацыйнай таблічкі, якая выканана з памылкамі. Работы пачнуцца ў другім паўгоддзі 2019 года і працягнуцца прыкладна 8 месяцаў.*

*І ні слова аб тым, па віне якога невука з'явіўся ў цэнтры сталіцы шыльда з памылкай і ці вярнуў той невук грошы ў гарадскую казну.*

РЭГІЁН

# Гродзенцы адбіліся ад надпісаў «Ленінскі» і «Кастрычніцкі»

Гродзенскія ўлады на адным з самых бачных месцаў у горадзе – на ўзгорку, дзе стаіць бернардзінскі касцёл, пачалі ствараць вялікі надпіс «Ленінскі раён» – літары хацелі высадзіць з хмызняку. На другім беразе Нёмана на адхоне па вуліцы Дарвіна пачалі ствараць падобны надпіс «Кастрычніцкі раён». Жыхары горада ў адказ стварылі петыцыю за адмену рашэння аб стварэнні жывых надпісаў з назвамі раёнаў, якія маюць палітычна-камуністычны падтэкст. За суткі сабралі больш за 500 подпісаў.

У петыцыі сцвярджалася, што «надпісы скажаюць эстэтычнае ўспрыманне культурна-гістарычнай панарамы горада Гродна. Акрамя таго, неэстэтычнае, на наш погляд, афармленне і сумнеўны выбар тэксту для экспазіцыі не мае ні сэнсавай, ні культурнай каштоўнасці для ўспрымання гараджанамі і тым больш гасцямі горада».

І вось адміністрацыя прадпрыемства «Гроднazеленбуд» паведаміла журналістам, што надпісу «Ленінскі раён» на ўзгорку, дзе стаіць бернардзінскі касцёл, не будзе, праўда, зялёны хмызняк там з'явіцца, але толькі дзеля ўмацавання схілу.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА



# Сердце и деньги

17 апреля президент Франции Эммануэль Макрон провел совещание по восстановлению сгоревшего Собора Парижской Богоматери. В Елисейский дворец срочно прибыли премьер-министр Эдуар Филипп, министр экономики Брюно Ле Мэр, министр бюджета Жеральд Дарманен, культуры Франк Риестер, мэр Парижа Анн Идальго, глава ЮНЕСКО Одре Азуле и архиепископ Парижа Мишель Опети.

В общем, все замечательно. Почти как у нас. Когда возникают острые ситуации, и у нас подобные совещания проводятся. Но есть небольшая разница: до совещания в Елисейском дворце французская общественность уже собрала на восстановление сгоревшей святыни свыше миллиарда евро. Миллиардеры Франсуа-Анри Пино и Бернар Арно выделили 300 миллионов, семья владельцев хорошо известной женщинам всего мира торговой марки l'Oreal – еще 200 миллионов.

Причем 56-летний Франсуа-Анри Пино заявил, что он не ждет никаких финансовых поблажек. Понятно, что он для него эти 100 миллионов – далеко не последние (во Франции его называют «королем роскоши», поскольку Пино возглавляет крупнейшую сеть по продаже дорогих вещей, а также популярную торговую сеть по продаже электротоваров Fnac). Тем не менее это показательный жест. Как 200 миллионов не последние и для 70-летнего Бернара Арно – президента группы LVMH Moët Hennessy – Louis Vuitton (дамы уже потянулись к сумочкам, а мужчины подошли к семейному бару?): личный капитал мсье Арно превышает 41 миллиард евро. Для них участие в восстановлении национальной святыни – честь, и в том, что действуют они по велению сердца (да, тесно в данном случае связанному с расчетом, но тем не менее), сомневаться не приходится. Французы вообще народ эмоциональный.

А что у нас? "Белгазпромбанк" по инициативе своего руководства собрал уникальную коллекцию картин мировых знаменитостей, родившихся на белорусской земле. Недавно я водил туда своих знакомых, приехавших из Москвы, – остались в невероятном восторге. Да и я, честно говоря, сам не ожидал такого вкуса и знания в подборе работ.

Но это – частная собственность. А вот благотворительность чистейшей воды – финансирование тем же банком перевода собрания сочинений нобелевского лауреата по литературе Светланы Алексиевич на белорусский язык. Понятно, что в процентном соотношении для банка этот проект менее затратен, чем для Бернара Арно вклад на восстановление Нотр-Дама. Однако реакция государства была показательна: в ряде областей библиотеки, если судить по прессе, первоначально отказались принимать в дар эти книги.

«Белгазпромбанк» – исключение из досадного правила. Белорусские бизнесмены словно стыдятся вкладывать деньги в большие культурные проекты, которые в будущем неизбежно будут связываться с их именами. Дешевле проплатить турне попсовой певички по колхозам: вроде бы на культурку денежки бросил, но и не страшно. Еще дешевле – пожертвовать на новостроенный храм с «луковицей»: авось в будущем за тебя помолятся? Сколько таких благотворителей потом успели отсидеть в белорусских тюрьмах, и молитвы не помогли, как и ордена церковные. Так что проще всего для обладателей капитала откликнуться на призыв спортивного клуба, опекаемого влиятельным родственником еще более влиятельного лица, или вложить деньги в мероприятие псевдообщественной – или, как прописано в нормативных актах, «общественно-государственной» – организации, поставляющей большинство членов участковых избирательных комиссий. На том и успокоились.

Системно культурой занимаются у нас сегодня Павел Подкорытов и Юрий Зиссер. Первый – белорусской литературой и историей, второй – органами (и не только, но Юрий Анатольевич сам предпочитает умалчивать о проектах, которым помогает, а орган ни в мешке, ни в храме не утаишь). Об остальных не слышно. Культура не приносит политических дивидендов в глазах нашей власти – наоборот, скорее вызывает подозрения. Это французам хорошо: там совещания с участием президента проходят не в качестве директивы, указывающей, куда, сколько средств и кто именно должен перечислить, а, так сказать, постфактум. Там, во Франции, конечно, массовые беспорядки бывают, и «желтые жилеты» жгут и крушат что ни попадя. Но в минуты национальной трагедии бизнес оказывается впереди государства, и деньги идут туда, где сейчас наиболее учащенно бьются сердца французов. Всех. Ибо президент – всего лишь один из них. Президенты приходят и уходят, а Собор Парижской Богоматери останется. И внутри его величественного каменного здания будет установлена табличка с именами всех, кто пожертвовал деньги на его восстановление.

Не сомневаюсь, что и наши тоже что-нибудь дали бы по велению сердца. Но, как говорил нобелевский лауреат по литературе М.А.Шолохов, пишем мы по велению сердца, а сердца у нас принадлежат партии. Мол, как партия указывала, таким пульс и был. Кому принадлежат сердца наших бизнесменов (а иногда и кошельки), мы догадываемся…

НУ И НУ!

## Готовил самогон в… Беловежской пуще

Житель Пружанского района оборудовал в Беловежской пуще мини-завод по производству самогона. Причем готовил самогон посреди леса в заброшенном ангаре возле агрогородка Шерешево. Как сообщили в пресс-службе МВД, нарушитель был задержан непосредственно во время изготовления самогона сотрудниками Пружанского РОВД совместно с бойцами ОМОН УВД Брестчины и работниками национального парка.

Сообщается, что правоохранителями на этом участке Беловежской пущи было уничтожено почти 4 тонны самогонной браги.

ТРАГЕДЫЯ

## У Рагачове цягнік насмерць збіў школьніцу ў навушніках

Цягнік насмерць збіў 15-гадовую школьніцу ў Рагачове, паведаміў БЕЛТА афіцыйны прадстаўнік МУС Аляксандр Марчанка.

Інцыдэнт адбыўся ўвечары 17 красавіка. Машыніст экстранна затармазіў, але пазбегнуць трагедыі не ўдалося.

«Каля 17.30 на станцыі Рагачоў пад таварняк Магілёў–Калінкавічы трапіла 15-гадовая мясцовая жыхарка. Двесцікласніцу даставілі ў бальніцу з траўмамі, ад якіх яна памерла каля 21.00. Праводзіцца праверка», – распавёў Аляксандр Марчанка.

Прычынай трагедыі сталі навушнікі, у якіх дзяўчынка, слухаючы гучную музыку, пераходзіла чыгуначныя пуці.

ЧУЛІ?

# 23 красавіка суд над Анжалікай Борыс

*Старшыню не прызнанага беларускімі ўладамі Саюза палякаў будуць судзіць за кірмаш «Казюкі». На адміністрацыйны працэс збіраюцца прыехаць сябры СПБ з розных гарадоў Беларусі.*

Як паведамляла «Народная Воля», на **Анжаліку Борыс** склалі адміністрацыйны пратакол за арганізацыю традыцыйнага кірмашу «Казюкі». Паводле слоў самой Борыс, кірмаш «Казюкі» СПБ ладзіўся ўжо 20-ы раз, але толькі сёлета міліцыя яго заўважыла, і на Анжаліку завялі адміністрацыйную справу.

Борыс не прызнае сваёй віны і лічыць, што ладзіла мерапрыемства згодна са статутам сваёй арганізацыі. Дарэчы, арганізатарамі кірмашу выступалі СПБ і Генеральнае консульства Польшчы ў Гродне. «Народнай Волі» Борыс патлумачыла, што Саюз палякаў не звяртаўся да гарадскіх улад па дазвол на масавае мерапрыемства, бо не лічыць яго такім. Імпрэза праводзілася ў закрытым двары, які яны арандуюць, а не на плошчы для вялікай колькасці людзей.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

*«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info, в VKontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Нас толькі сем пенсіянераў. Дажываем...»

*Вёска Плоскаўцы Сапоцкінскага сельсавета Гродзенскага раёна стаіць ў маляўнічым месцы над Нёманам, акружаная лесам. Адна вузенькая звілістая вулачка. Каля 30 хат, у большасці з якіх вокны забіты дошкамі, на дзвярах замкі. У вёсцы не гучна дзіцячых галасоў, не ўбачыш маладых людзей. Тут пражываюць толькі сем пенсіянераў. На ўсю вёску ніводнай каровы, ніводнага парсюка, толькі куры і адзін конік.*

## Раз'ехаліся хто куды...

Плоскаўцы – так званая неперспектыўная вёска. Тут няма школы, пошты, крамы, ФАПа. Такіх паселішчаў у Беларусі цяпер шмат, і, праязджаючы праз іх, вельмі цяжка бачыць яшчэ дыхтоўныя хаты з забітымі вокнамі, зарослымі агародчыкамі і занядбанымі падворкамі.

У Плоскаўцах людзей не бачна нават на падворках тых хат, у вокнах якіх вісяць занавескі. За адным плотам я заўважыў курэй, прыпыніўся. Выйшаў гаспадар, за ім гаспадыня: цікава – нечаканы госць. Вось, кажу, праехаў праз усю вёску і не сустрэў ніводнага чалавека. Ды тут, адказваюць, і жывуць толькі сем пенсіянераў.

**Валянціне** і **Казіміру Яблонскім** амаль па 80 гадоў. У Плоскаўцах жывуць з дзяцінства. Дзеці і ўнукі – у Гродне.

*«Старэйшыя людзі ў нас тут ужо паўміралі, а маладыя раз'ехаліся хто куды, многія ўжо і за мяжой жывуць,* – распавядае пані Валянціна. – *Калі хто сюды і прыязджае, дык толькі як на лецішча...»*

Спадар Казімір згадвае, што некалі ў вёсцы была нават школа, была крама, якую закрылі каля 10 гадоў таму. Было, было, было...



Вёска Плоскаўцы Гродзенскага раёна.

## «Калі чаго не хапае – тэлефануем дзецям»

Гаспадар скардзіцца: маўляў, надакучыў халодны вецер, калі ўжо будзе цёплае надвор'е? Я падтрымліваю свецкую гаворку і пакрысе цікаўлюся, як ім тут жывецца.

У адказ старыя толькі ўсміхаюцца. Пані Валянціна амаль 30 гадоў адпрацавала даяркай на калгаснай ферме і атрымлівае пенсію каля 400 рублёў, а Казімір 40 гадоў працаваў трактарыстам, і ў яго пенсія трохі вышэй.

*«Ну вось як мы жывём? Прыязджае два разы на тыдзень аўталаўка, набываем харчы. Праўда, сырога мяса не возяць, а ўсё болей вэнджанае, малако, хлеб,* – пералічвае пані Валянціна. – *Калі прыхварэем, то тэлефануем у суседнюю вёску ў ФАП, адтуль прыязджае доктарка. А калі горш пачуваемся, то выклікаем «хуткую», але найчасцей тэлефануем дзецям у Гродна».*

Пенсію прыносіць паштарка, а за электрычнасць і іншыя камунальныя паслугі плацяць дзеці ў Гродне. Старыя не скардзяцца на памер пенсій, жывуць, як Бог пашле. Амаль усе грошы сыходзяць на харчаванне і лекі.

З жыўнасці ў Яблонскіх куры, конік і сабака. Садзяць каля хаты гарод, таму і трымаюць коніка, каб было як узараць. Трымаць свіней у вёсцы ўлады не дазваляюць, спасылаючыся на афрыканскую чуму.

*«Я, канешне, сам бы ўжо не даў рады і коніка трымаць, але дзеці дапамагаюць»,* – удакладняе спадар Казімір.

Спадарыня Валянціна згадвае, як яны жылі раней: трымалі кароўку, свіней, авечак, курэй, гусей, індыкоў. Зараз, уздыхае жанчына, яны без гэтага нібы галодныя.

*«Калі быў свой кавалак мяса, малако, смятанка свая, усё астатняе (мы яшчэ і здавалі малако, прадавалі мяса), то і капейка была, і харчы сапраўдныя,* – распавядае яна. – *А зараз бачок набудзеш у краме, а ён на патэльні не смажыцца, патрэбна алей падліваць – што гэта за прадукты?»*



Валянціна і Казімір Яблонскія.

## «Мы палякі, а паміж сабой гаворым па-беларуску»

Пані Валянціна распавядае, што іх вёска заўсёды лічылася польскай, бо жылі пераважна палякі. Касцёла ў Плоскаўцах не было, але яны адносяцца да парафіі ў Сіліванаўцах – гэта ў трох кіламетрах. І зараз Яблонскія імкнуцца не прапускаць службы.

*«Звычайна нас возяць дзеці машынай, але калі няма такой магчымасці, то муж запрагае коніка – і ўсё роўна едзем,* – кажа пані Валянціна. – *Вы толькі напішыце, каб старшыня калгаса нам не закрыў дарогу да Сіліванаўцаў, бо ўжо звузілі яе да таго, што дзве легкавыя машыны размінуцца не могуць. Няўжо ў нас зямлі на дарогу не стае?»*

Валянціна і Казімір размаўляюць са мной на прыгожай беларускай мове. Я цікаўлюся: ці заўсёды паміж сабой яны гавораць па-беларуску?

*«Так, мы заўсёды гаварылі ў хаце па-беларуску, і ў вёсцы таксама ўсе гаварылі, праўда, крыху мешана. Але мы палякі, добра гэта ўсведамляем і валодаем польскай мовай,* – адказвае пані Валянціна. – *У касцёле служба раней была толькі па-польску, а зараз ёсць і на беларускай мове. І, дарэчы, нікому гэта не замінае».*

Абодва згадваюць пра тое, як у савецкія часы камсамольцы і партыйцы выкопвалі каля іх вёскі каталіцкі крыж, а вяскоўцы збіраліся ўначы і вярталі яго на месца, як патаемна хадзілі ў касцёл, як не было ксяндза і маліліся самі.

*«Цяпер на святы да нас часта прыязджае шмат людзей з Польшчы, якія маюць тут радню. І такім чынам мы маем маральную сувязь з Польшчай, дзе жывуць многія нашы сваякі і блізкія людзі».*

## «Начальства пра нас узгадвае толькі падчас выбараў»

Цікаўлюся ў Яблонскіх: ці часта ў вёску наведваюцца чыноўнікі з раёна і сельсавета, ці цікавяцца іх жыццём і праблемамі, ці аказваюць нейкую дапамогу? Пенсіянеры смяюцца ў адказ.

*«Ніхто і ніколі не прыедзе і не папытаецца, як мы тут жывём,* – кажа спадар Казімір. – *Мы нікому не патрэбны. Аўталаўку прышлюць два разы на тыдзень – і жыві як хочаш».*

А вось не, не пагаджаецца пані Валянціна, яшчэ начальства прыязджае, калі праходзяць выбары: *«Прывозяць нам урны і кажуць, за каго трэба галасаваць. А мы паслухаем і галасуем па-свойму».*

Праз дзень старыя заходзяць да суседзяў паглядзець, ці тыя жывыя, а суседзі наведваюцца, каб спраўдзіць, як яны маюцца.

*«І ў горад мы стараемся не ездзіць, хіба што да доктара, а так усё каля хаты топчамся і да свайго касцёла»,* – заўважае пані Валянціна.

**Міхал КАРНЕВІЧ, Гродзенскі раён.**

НЕОБЫЧНЫЙ ПРОЦЕСС

# «Давал подзатыльники, бил по лицу, таскал за уши»

*Суд Слуцкого района приговорил бывшего заместителя директора Минского областного кадетского училища к трем годам в колонии усиленного режима без конфискации имущества.*

**Анатолий Булгак** с 2010-го по 2018 год работал заместителем директора по воспитательной работе Минского областного кадетского училища (базируется в Слуцке).

Его, военного пенсионера, судили по статье УК «Превышение власти или служебных полномочий». Конкретно 67-летнего мужчину обвиняли в том, что, будучи заместителем директора кадетского училища, он «незаконно подменял методы воспитания методами физического насилия».

К слушанию дела в суде, которое продолжалось больше месяца, (началось еще 11 марта), было приковано пристальное внимание как бывших и нынешних кадетов, так и их родителей, а также жителей Слуцка. Мнения разделились, но равнодушным не остался никто.

Даже среди потерпевших кадетов были те, кто, признавая, что Анатолий Булгак порой распускал руки, тем не менее отмечал положительные качества бывшего педагога. Говорили о нем как об ответственном, требовательном человеке. Не отрицали, что подзатыльники, оплеухи и прочие физические методы воздействия заместитель директора применял к ним за различные нарушения – ругань матом, курение, ненадлежащий внешний вид, плохое поведение на уроках. Некоторые из потерпевших даже просили, чтобы Анатолия Булгака не наказывали уголовно, мол, они не держат обиды. Также некоторые из кадетов упомянули, что следователи допрашивали их без присутствия законных представителей, не разъясняли им их права и обязанности.

Были свидетели как со стороны кадетов, так и со стороны администрации училища, которые говорили о бывшем заместителе директора как о человеке, который пользовался уважением воспитанников училища.

Директор училища **Сергей Метельский** заявил в суде, что не знал о случаях, когда Булгак бил воспитанников. Кадеты никогда не жаловались ему на этот счет.

В самом Слуцке ходило много разговоров по поводу этого процесса. Некоторые из бывших кадетов и их родителей выражали мнение, что Булгака если и надо наказать, то минимально, без лишения свободы, так как к воспитанникам он относился по-отечески. Но другие жестко и неодобрительно отнеслись к тому, что А.Булгак применял подзатыльники, оплеухи, щипки в качестве воспитательных методов. И имели для этого основание: подобные методы действительно противозаконны и противоправны.

В суд было подано ходатайство от группы жителей Слуцка, в котором они потребовали максимально сурового наказания для А.Булгака по вменяемой статье. Иначе, как написано в ходатайстве, *«мы оставляем за собой право жаловаться генеральному прокурору, вплоть до президента РБ»*. В этом ходатайстве также сообщалось, что А.Булгак позволял себе рукоприкладство, издевательство в отношении некоторых воспитанников военного духового оркестра, в состав которого входили и подписанты. Речь идет о конце семидесятых – начале восьмидесятых годов прошлого столетия. Как утверждают случчане, А.Булгак был тогда старшиной оркестра.

Приговор Анатолию Булгаку в законную силу еще не вступил. Его можно обжаловать в течение 10 дней после вынесения. И многие, с кем я говорила, считают, что А.Булгак должен так и сделать.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

КРОПКІ НАД «І»

## Насельніцтва Оршы – 114 тысяч 135 чалавек

У мінулым нумары «Народнай Волі» мы пералічылі самыя буйныя гарады Беларусі па колькасці насельніцтва: такія дадзеныя ўтрымліваюцца ў статыстычным даведніку Нацстата краіны. Аднак са спісу, дзе ўзгадваюцца гарады-статысячнікі, выпадкова згубіўся горад Орша, у якім сёння пражывае 114 тысяч 135 чалавек. Такім чынам, у васьмі гарадах Беларусі жыве больш за сто тысяч чалавек. Акрамя **Оршы** гэта таксама **Баранавічы, Барысаў, Пінск, Мазыр, Салігорск, Наваполацк, Ліда.**

Карыстаючыся нагодай, удакладнім: Аляксей Карпюк колісь узначальваў толькі гродзенскую абласную арганізацыю пісьменнікаў, а не ўвесь Саюз беларускіх пісьменнікаў, як было памылкова сказана ў інфармацыі «У Гродне ўшанавалі пісьменніка-франтавіка Аляксея Карпюка».

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

*«Я жыву за горадам. Маю вялікі прысядзібны ўчастак. У мінулым годзе вырашыў пасадзіць бульбу ў тым месцы, дзе многія гады расла трава і побач вымахалі хвойкі і пару ялінак. Дзіўна, але абышлося без каларадскіх жукоў. Рады не зараслі пустазеллем. Ураджай парадаваў:назбіралі столькі клубняў, што нават цяпер, калі на зыходзе красавік, у нас іх яшчэ тры скрынкі, у кожнай кілаграмаў па дваццаць.*

*Але засмучае, што амаль кожная бульбіна з чорнымі пазнакамі ад хадоў драцяніка (правалачніка) ці, можа, нейкай мядзведкі. Перад тым як варыць, даводзіцца выкалупваць усе пашкоджанні, у выніку псуецца таварны выгляд клубняў.*

*Шаноўная рэдакцыя, вам больш зручнне пацікавіцца ў вучоных ці проста спецыялістаў, што мне зрабіць сёлета, каб восенню не выкопваць клубні, пашкоджаныя тым жа драцянікам ці нейкімі іншымі істотамі?»*

**Фелікс МУРАЎСКІ, жыхар Мінскага раёна.**

# Каб не хварэла бульба

«Народная Воля» звярнулася за каментарыем да загадчыка аддзела імунітэту і абароны бульбы РУП «Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук па бульбаводстве і плодаагародніцтве» **Івана БУСЬКО**, які не толькі расказаў пра тое, як змагацца з драцянікам, але і даў некалькі іншых карысных парад нашым чытачам.

– Не дзіўна, што ў бульбе вашага чытача з'явіўся драцянік, бо ён добра сябе пачувае менавіта на землях, на якіх расла трава і якія доўгі час не апрацоўваліся, – кажа Іван Іванавіч. – Драцянік на сённяшні дзень – найбольш распаўсюджаны шкоднік для бульбы і ў грамадскім сектары, і ў прыватным, хаця па вялікім рахунку пазбавіцца ад яго не складае вялікай цяжкасці. Маецца шэраг сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для апрацоўкі клубняў, пасля чаго драцянік знікае.

Прыватнікам, напрыклад, я параіў бы для барацьбы з вышэйзгаданым шкоднікам «Табу». Калі развесці 8 мл на 1 літр вады, то гэтага дастаткова, каб перад пасадкай апрацаваць апырсквальнікам 100 кг клубняў. Альбо ўзяць 4 мл на 10 літраў вады і перад пасадкай паліць дно баразны. Разумею, што вялікія плошчы складана апрацаваць, але калі ўчастак невялікі, то гэта зрабіць па сілах.

Таксама добрыя сродкі ад драцяніка «Праватокс», «Імідор Про», «Зямлін», швейцарскі «Круізер». Дарэчы, усе яны дазволены Дзяржаўным рэестрам для выкарыстання ў прыватным сектары, а таму павінны быць у продажы.

І яшчэ адзін момант. «Табу», «Імідор Про» і «Круізер» – сродкі комплекснага ўздзеяння і на драцяніка, і на каларадскага жука. Так што эфект будзе двайны.

**– Наколькі эфектыўныя гэтыя сродкі?**

– Калі ўсё выконваць па інструкцыі, то эфектыўнасць вельмі высокая – 95–100 працэнтаў. Гэта ж не біялагічныя прэпараты, а хімічныя, бо драцянік – даволі спецыфічны шкоднік.

**– Ці праўда, што апошнім часам з'яўляюцца ўсё новыя і новыя хваробы бульбы?**

– Так, і гэта ў першую чаргу звязана са зменай клімату. Адно з новых захворванняў – раневая вадзяністая гніль. Таксама нясе небяспеку рызактаніёз, калі на бульбе з'яўляюцца чорныя кропкі. Калі такія клубні трапляюць у глебу, то заражаюць і ўсе астатнія, таму добрага ўраджаю не будзе.

Бульба хварэе, як і чалавек, а ад хворага чалавека вы ж таксама не дачакаецеся стопрацэнтнай працаздольнасці.

**– Шмат нашых чытачоў задаюцца і яшчэ адным важным для гаспадароў пытаннем: як найбольш эфектыўна ратавацца ад каларадскага жука?**

– Гэта таксама сёння не праблема, бо з'явілася шмат сродкаў і ад гэтай навалы. Самае галоўнае, што тут трэба ведаць, – ужо дарослага жука вы не пераможаце. Калі каларадскі жук адчуў небяспеку, ён, што называецца, «засынае» і можа ў такім стане быць працяглы час. Але, як толькі пагроза праходзіць, ён сабраўся – і паляцеў на новае месца.




Таму найперш трэба змагацца з лічынкамі каларадскага жука, гэта самая эфектыўная фаза. Калі пасадзілі бульбу на пачатку мая, то ў чэрвені ўжо можна пачынаць барацьбу з жуком.

Дарэчы, я нярэдка бачыў, як бабулі ў вёсках збіраюць жукоў у слоікі альбо ў вядро, пасля абліваюць бензінам і спальваюць. Хачу адразу сказаць: усё гэта барацьба з ветракамі! Аднаго каларадскага жука знішчылі – другі прыляцеў на яго месца. Таму неабходна апрацоўка, без гэтага ніяк.

**– Фітафтора таксама дадае галаўнога болю...**

– Гэта вельмі небяспечнае і агрэсіўнае захворванне. Развіваецца яно настолькі хутка, што вечарам можна бачыць прыгожае бульбяное поле, а раніцай вы яго ўжо не пазнаеце. Навуковыя даследаванні паказваюць, што на 100 гектараў поля дастаткова аднаго клубня, які заражаны фітафторай, каб эпідэмія пайшла на ўвесь участак.

Як змагацца з ёй? Трэба гуляць на апярэджанне. Апрацоўваць поле не тады, калі фітафтора ўжо з'явілася, а прафілактычна. І гэта трэба зрабіць, калі расліны дасягнулі ў вышыню 12–25 сантыметраў.

**– Калі апрацаваць бульбу ўсімі гэтымі сродкамі, пра якія вы распавялі, ці можна яе будзе пасля гэтага есці?**

– Мы таксама неаднаразова задаём гэтае пытанне, бо хімічны прэс на бульбу і насамрэч даволі вялікі, а клубні ж затым купляюць і для школ, і для дзіцячых садкоў. Таму наша бульба ў абавязковым парадку праходзіць кантроль у Рэспубліканскай таксікалагічнай лабараторыі, каб вызначыць, ці застаецца ў ёй «хімія». І я вам шчыра скажу: нам ніводнага разу не сказалі, што бульба забаронена для ўжывання, а прыгодна толькі для прамысловай перапрацоўкі.

Пацверджана, што калі ўсё рабіць паводле тэхналогіі, калі захавана норма ўнясення прэпарату, то затым адбываецца яго распад, і рэшткавай колькасці ў прадукцыі не бывае. Хаця, натуральна, ёсць і цалкам экалагічнае земляводства.

**– Што б вы яшчэ карыснага параілі людзям, якія збіраюцца садзіць бульбу?**

– Па-першае, заўсёды трэба выбіраць якаснае насенне, без знешніх прыкмет захворванняў. Калі клубні крыху падгнілі альбо з карозіяй, то лепш адкласці іх убок. Насенне павінна быць адкалібравана, аднаго памеру, чыстае ад узбуджальнікаў захворванняў.

І яшчэ. Не варта спяшац-ца з пасадкай бульбы. Калі пасадзіць яе ў халодную глебу, то адназначна будзе развівацца рызактаніёз. Патрэбна, каб глеба добра прагрэлася, і, натуральна, на ўчастак перад гэтым неабходна абавязкова ўнесці ўгнаенні. Калі ўсё будзеце рабіць паводле правіл, то чакайце добрага ўраджаю...

**Алесь СІВЫ.**

